## ДЗЬМУХАВЕЦ-ЗАЗНАЙКА

*Байка*



Дзьмухавец рос непрыкметна; неспадзеў
Яркім колерам вясною расквітнеў.
Навакол агледзеўся, здзівіўся:
– Як жа свет папрыгажэў, змяніўся!
Шэраму ды воблачнаму дню
Падарыў святло я, цеплыню.
І звяры мне рады, і расліны...
Я для іх любімы і адзіны!
Сонцам Дзьмухавец сябе ўявіў,
Быццам гэта ён усім свяціў.
Толькі пару тыдняў праляцела –
Галава зазнайкі пасівела.
Разам з ветрам лёгкія пушынкі
Зніклі, быццам па вясне сняжынкі...

* * *

Колькі гэтакіх з'яўлялася «свяціл» –
Іх усіх пералічыць не хопіць сіл.
Ды знікалі самазванцы, і бясконца
Грэе нас адно на ўсю планету Сонца.



**Таццяна ЧЭКЕД,**
*г. Гомель.*




Мікола ГІРГЕЛЬ.




Для здароўя лепей смяяцца ўдвух, чым збірацца на трох.

Калі сеў на дыету, то не стой каля шведскага стала.

Прыгавор лёсу ў судзе не абскардзіш.

Нялёгка быць з чалавекам, цяжкім на пад'ём.

І з халоднай галавой можна трапіць пад гарачую руку.

Будзеш на кані – прыдбаеш і аўтамабіль.

Калі доўга сядзець на цёплым месцы, можна і апячыся.

Горкім вопытам ахвотней усяго дзеляцца ўтрох.

Глыбіню пачуццяў сантыметрам не змерыш.

Людзі з падмочанай рэпутацыяй часта не прасыхаюць.

П'янеюць ад шчасця значна радзей, чым ад алкаголю.

Калі няма жаночага цяпла, дык і бабіна лета не сагрэе.

Забіць у сабе звера можна без зброі.

І дробязі жыцця могуць прыносіць буйныя непрыемнасці.

Недалёкі чалавек нярэдка заходзіць вельмі далёка.

Каб купацца ў раскошы, трэба ўмець плыць па цячэнні.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*




*Фельетон*

Вера вярталася з працы звычайнай дарогай: некалькі прыпынкаў на аўтобусе, потым — крама каля дома. Выходзячы з яе, жанчына заўважыла маладую дзяўчыну з паперай у руках, якая ўціснулася ў кут каля дзвярэй. «Ліза... 4 гады... Лейкоз... Патрэбна аперацыя... Ізраіль... 200000 долараў». Надрукаваны тэкст быў дробны, таму ўдалося выхапіць толькі словы, вылучаныя тлустым шрыфтам.

Раней Вера не звяртала асаблівай увагі на людзей, якія прасілі ў Светлагорску грошы на вуліцы, аднак цяпер было інакш. Разгублены позірк, напружаная пастава, боязь адмовы... Было так відавочна, што дзяўчыне няёмка, ды што рабіць?..

Мабыць, жанчына вырашыла дапамагчы яшчэ і таму, што летась яе родная сястра нарадзіла дачку. Час, праведзены з пляменніцай, зрабіў цётку больш уражлівай і сентыментальнай. Яна міжвольна пераносіла гісторыі хворых дзяцей у сваё жыццё...

Вера падышла да дзяўчыны, дастала з кашалька некалькі купюр. Тая зацікаўлена паглядзела на яе рукі, але як толькі пабачыла грошы, не змагла стрымаць расчаравання. Зразумела, сума збору ідзе на сотні тысяч долараў, а тут такая дробязь...

Зазірнуўшы ў кашалёк яшчэ раз, жанчына знайшла пяць рублёў, аднак усё роўна адчувала сябе вінаватай:

– Ці магу я неяк яшчэ дапамагчы? У кніжнай краме, дзе працую, шмат пакупнікоў. Думаю, з іх дапамогай таксама можна сабраць грошы на лячэнне.

– Дзякуй, але не трэба. Засталося няшмат, – дзяўчына адмоўна пахітала галавой.

– Навошта чакаць? На паперы ёсць нумар вашага тэлефона і рахунак? Дазвольце, я сфатаграфую яго і заўтра на працы абмяркую з калегамі, як дапамагчы вашай Лізе.

– Няма там ні нумара, ні рахунку. Не хапіла часу, каб яго адкрыць. А дабрачынныя фонды адмаўлялі ў дапамозе, – хуценька прагаварыла дзяўчына і паспешна перавярнула ліст.

– А хто вы для дзіцяці: маці або сястра? Ці, можа, валанцёрка? – вартаўнік крамы нечакана падышоў да іх і звярнуўся да дзяўчыны. Потым перавёў позірк на Веру. – На мінулым тыдні гэтая асоба расказвала нейкаму мужчыну пра хворую дачку, а ўчора распавядала падлеткам пра занятак дабрачыннасцю... Сёння ж яна ўжо ратуе сястру!

– Атрымліваецца, што мяне падманулі? – жанчына разгублена глядзела на тэлефон, якім яшчэ нядаўна збіралася сфатаграфаваць паперу ў руках дзяўчыны.

– Але, – пацвердзіў вартаўнік. – Шкада, ды так... І я, і прадаўцы ўжо колькі разоў яе сарамацілі: усё дарэмна... Махлярка выходзіць на вуліцу, а потым ціхенька вяртаецца ў краму або на ганку каля ўвахода грошы просіць, як цяпер, напрыклад.

І сапраўды, дзяўчына ўжо выслізнула на вуліцу, стала каля дзвярэй. Адчуўшы на сабе позіркі, яна хутка сышла ўніз па лесвіцы і знікла.

– А хто тады дзяўчынка на фотаздымку? – спытала Вера.

– Не ведаю, у інтэрнэце я не знайшоў яе па прозвішчы. Магчыма, ашуканка выдумала яго, як і гісторыю хваробы, а фотаздымак – іншага дзіцяці... Дарэчы, нядаўна ездзіў у Віцебск, дзе бачыў яшчэ адну падманшчыцу. Яна збірала грошы на лячэнне хворага расійскага хлопчыка, які памёр пяць гадоў таму ад раку крыві.

– І не сорамна так рабіць! – абурылася жанчына. – Людзі, якія ахвяруюць грошы, маглі б сапраўды дапамагчы каму–небудзь, а не пакласці іх у кішэню махляра.

– Магу толькі параіць звярнуцца ў міліцыю.

– З–за дробязі пісаць заяву? – Вера не хацела выглядаць прагнай.

– Гэта не дробязь. І толькі так, дарэчы, можна спыніць прайдзісветку. Пакуль ніхто не скардзіцца, такія людзі будуць ілгаць. Хтосьці ў звычайным жыцці, хтосьці – віртуальна... Чулі гісторыю пра хлопца, які збіраў грошы з фірм і прадпрымальнікаў нібыта для сірот?.. Будзе заява на аднаго падманшчыка – іншыя таксама задумаюцца, – патлумачыў вартаўнік і пайшоў працаваць.

Назаўтра жанчына расказала гэтую гісторыю калегам, каб паслухаць, што яны думаюць, і вырашыць, што далей рабіць. Але меркаванні былі вельмі розныя... У размове ўзгадалі, як у Брэсце адна маці адкрыла дабрачынны рахунак для лячэння здаровага сына. А каб людзі верылі, карысталася падробленымі дакументамі... Другая аферыстка, з Бабруйска, патрабавала ў знаёмага грошы на лячэнне яго сына, якога... выдумала. Колькі яшчэ ёсць гісторый, калі махляры не саромеліся так бесчалавечна падманваць адкрытых і даверлівых людзей!.. У той час, калі вельмі многім дзецям патрабуецца рэальная дапамога!

Вечарам Вера вярталася дахаты. Праходзячы каля крамы, яна заўважыла знаёмы твар. Дзяўчына з паперай у руках хутка адвяла вочы і знікла ў суседнім двары. Адказ на пытанне, што рабіць далей, у Веры ўжо быў...

**Алена КЕДА.**

## Нічыпар ШЭРАНЬКІ

### Быў малады…



Звярталіся ўсе: «Малады чалавек!»
І быў я тады сапраўды малады.
Імкліва ўварваўшыся ў новы наш век,
Стаміўся ад гэткай паспешнай хады.

І той жа гуляе па вуліцах люд,
І тых жа дамоў ледзяныя муры.
Ды дзе ні ступлю я, то чую паўсюд:
— Сядзеў бы ўжо дома лепш,
дурань стары!

### Адны і другія



Адны крадуць —
І смачна ядуць.
Другія ішачаць —
І мізар ім плацяць.

У першых здзіўленне:
«Ёсць недзе сумленне?!»
Другія ўздыхаюць:
«Во, лодары, маюць!»

### Лепей — пехатой!

У перапоўненым аўтобусе
Смурод саляркі — божа мой!
Я адмяніў аўто б усе:
Хай людзі ходзяць пехатой.

Няхай працуюць нашы цяглiцы
І прыбаўляюць веку дні.
А той аўтобус ледзьве цягнецца,
Ну хоць ты вылезь — падштурхні!

### Згубіў




Набыў я нямала, прыдбаўшы гадоў,
Не толькі на скронях сівых валасоў.

Сасоннік быў рэдкі з юнацкай пары,
Цяпер жа —
шумяць-раскашуюць бары!

Ды страціў напэўна ўсё ж больш,
як набыў:
Сваю маладосць беззваротна згубіў.

## Вясёлы слоўнік

Адубець — адлупцаваць дубцом.
Жывакост — кашчэй бессмяротны.
Жэўжык — піла.
Зародак — нашчадак.
Мурог — каровін рог.
Палонка — спакусніца.
Палявод — компас.
Пампушка — артылерыст.
Памылка — лазня.
Парушыць — сшыць нешта парнае.
Парэчнік — вясляр.
Пасада — прагулка па садзе.
Самаадвод — ручай.
Самазабыццё — згубленыя рэчы.
Суквецце — лес.




**Даслала Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.



Алег ГУЦОЛ.




## А трэскі дзе?..

***Брэсцкая вобласць.*** Кіраўнік буйнога структурнага падраздзялення сельгаспрадпрыемства і тры прадстаўнікі камерцыйных структур Бярозаўскага раёна «папілавалі» дзяржаўныя грошы без пілы і сякеры. Дзяржпрадпрыемства атрымала ад камерсантаў больш чым 3 тысячы кубаметраў трэсак і пілавіння, але – толькі на паперы. Затое грошы за іх (звыш за 110 тысяч рублёў) былі рэальнымі і зніклі ў кішэнях фігурантаў ашуканскай схемы.

Супрацоўнікі кобрынскай фінансавай міліцыі зацікавіліся такім «пілаваннем» і ўзбудзілі ў адносінах аматараў фіктыўных дакументаў крымінальную справу.



## «Залатая» воўна

***Гродзенская вобласць.*** Ясону, правадыру арганаўтаў, давялося перажыць шмат прыгод і шукаць жаданую рэч у далёкай краіне. Работнікам камвольна–прадзільнага камбіната пашанцавала больш: «скарб» знайшоўся на радзіме. Воўну з рэгіёнаў Паўночнага Каўказа прадавала мінскае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства. Толькі камерцыйная дзейнасць аказалася падманнай…

«Руно» сапраўды стала залатым: дзяржава не далічылася падаткаў на суму больш за 160 тысяч рублёў. Якія, дарэчы, пасля праверкі былі вернуты ў бюджэт.



## «Прыгон» і ўрон

***Глускі раён.*** Мабыць, кіраўнік установы аховы здароўя не ведаў, што прыгоннае права даўным-даўно скасавалі. Таму прымушаў падначаленых у рабочы час і выхадныя дні працаваць на асабістым зямельным участку, а таксама ў доме, які будуецца ў Бабруйскім раёне і зарэгістраваны на яго сваякоў.

Дырэктар асабіста кантраляваў, як работнікі выконваюць будаўнічыя ды зямельныя работы, прывозіў ім харчаванне. Тым часам, ім налічвалася і выплачвалася зарплата... Урон ад такога «прыгону» склаў не менш за 25 тысяч рублёў.

Правяраючыя нагадалі невуку школьны курс гісторыі. Узбуджана крымінальная справа.

## Геніі маркетынгу

***Гомельская вобласць.*** Некаторыя крамы актыўна і рэгулярна праводзілі дзіўную акцыю «Купляй менш – плаці больш». (Праўда, пакупнікам пра тое не паведамлялі.) Так, каўбасныя вырабы, якія важылі на 3–40 працэнтаў менш, чым раней, можна было набыць за стары кошт.



Алег ГУЦОЛ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.

Прадаўцы не пераважвалі тавар, які з цягам часу ўсыхаў, і тым самым аблічвалі пакупнікоў. Не было на прадукцыі, якая прадавалася на вагу, і неабходнай інфармацыі: дата вытворчасці, тэрмін годнасці, састаў...

Зараз геніі маркетынгу ўдзельнічаюць у іншай акцыі: «Устарані парушэнні — забудзь пра кантралёраў».

## Які век у раскошы?

***Мінск.*** Адна з жыхарак навабудоўлі па вуліцы К. Тураўскага пацікавілася ў новай суседкі:

— Вы, пэўна, нядаўна засяліліся?

— Так, пару дзён таму, — пацвердзіла тая.

— Дзіўна... Гаспадар набыў кватэру месяц назад і ўжо прадаў.

— Я чула, што ў яго яшчэ дзевяць кватэр у гэтым доме, якія ён таксама збыў... Вось гэта грошы!

— А я не зайздрошчу яму: нездарма кажуць, што ў раскошы век кароткі.

Жанчына не памылілася. Мінчанін прадаў маёмасць на агульную суму больш чым 1,3 мільёна рублёў, аднак пра падаткі ў памеры больш за 170 тысяч рублёў «забыў». Фінансавыя міліцыянеры ж не маглі не звярнуць увагу на такую кватэрную раскошу... У адносінах аматара нерухомасці ўзбуджана крымінальная справа.



*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.*

Віктар КУНЦЭВІЧ




У будучыню зазірнуць
Хацелася,
Жыцця палову ўжо прайшоў —
Прыелася.
Спадзеў убачыць
Нешта яркае — мізэрны,
Псаваць ці варта прадказаннем
Свае нервы?
«Паваражу, —
Чапляецца цыганка, —
Усё скажу:
Без крыўды, без падманкі».
Адказваю: «Ды ведаю,
Што можаш мне сказаць.
І радасці, і беды я
Магу сам прадказаць».
Чарнявая ўсміхаецца,
Хаваю ўсмешку я.
І лёс мой уяўляецца
Святлейшым удвая.



*г. Магілёў.*




Алег КАРПОВІЧ.




Пётр КОЗІЧ.

Уладзімір САЛАМАХА

# «Трынкен шнапс, гармонік шпілен...»

*Працяг. Пачатак у № 4 за 2019 год.*



*Апавяданне*

**2**

...Хто ведае, чым бы ўсё скончылася, каб аднойчы, можа, гадоў праз пяць, не прыехаў у вёску Пецька Кот. Прыехаў на нябачанай тут яшчэ легкавушцы («мерс» называецца). Сам за рулём. Выйшаў да людзей – ахнулі: у малінавага колеру пінжаку, у джынсах. На шыі – залаты ланцуг: не ўсялякі дварняк павалачэ. (Апошняе бяззубы Росцік прашамкаў, мабыць, ад зайздрасці: золата таго, можа, хапіла б паставіць шчэлепы, ну чатыром-пяці вяскоўцам, не больш).

Час быў такі: і курыва, і пітво – у жадобку, давалі па талонах.

Машына спынілася ля селькрамы. Якраз людзі сабраліся: пасля абеду сюды прывозяць хлеб. Якія людзі? Росцік, даяркі, механізатары. Механізатараў усяго двое: Ваня Пепечка і Віцік Грузд, Іллёвы равеснікі. Хлопцы добрыя. Старых слухаюць. Ваня за сваю ім дапамогу ніколі ні ў кога чаркі не папросіць, граша не возьме. Кажа, маўляў, дасць бог, некалі і я састаруся, можа, і мне нехта дапаможа. А Віцік, дык той прасіў адну плату: «Дайце-ка мне, калі ёсць, якую кніжку пачытаць. (Бібліятэкі ж у вёсцы няма). Можа, дзе ў вас Горкі ляжыць?» (Чамусьці Максіма Горкага любіў асабліва.) Кніжкі, калі былі ў хаце, давалі з радасцю: «Бяры, бяры, а то мышы точаць. Бяры назусім». Жаданне яго чытаць усё, што трапіць пад руку, ведалі яшчэ са школы: ну падабаецца хлопцу, хоць ты яго рэж. Другі б ад кніжак у навуку пайшоў, а ён не: «Куды я ад маці?» А ў маці яго, даяркі, як толькі Віцік пайшоў у школу, ці то ад цяжкай працы, а можа, з якой іншай прычыны, адабрала ногі. Хоць Віцік і Ваня не выпівохі, але ж нейкія нібы пакрыўджаныя, не дагледжаныя. Вядома, даўно пара сем'і свае мець, а яны халасцякуюць.

Выйшаў Пецька з машыны і як гаркне:

– Здарова, братва!

– Здарова, калі не жартуеш...

– Якія жарты? Як жысць вясковая?.. Кажаце, не бяды.

Слова за словам, ужо Ваня і Віцік кажуць: «Можа, дасі ў зубы, каб дым пайшоў?» Даў. Зацягнуліся: «Ну і брыдота». Папляваліся: «Прабач, наш мох з вішнёвым лістом лепш». «А ў Эўропах усё такое нялюдскае, – уставіў свае тры капейкі Росцік, – што курыва, што хлеб, што пітво, што бабы...» (Хоць і удавец, стары, а на апошнім запнуўся.)

Пасмяяліся. Каб Пецька іх захмяліў, мужчыны яго не прасілі. Той сам дастаў з багажніка пітво. Нейкае «віскі». Тут жа прынеслі з крамы шклянкі. Мужчыны па кроплі выпілі. Пецька ж нават не прыгубіў. Паглядзелі на Пецьку, зморшчыліся: канешне, пітво замежнае – брыдота, да нашай самагонкі яму далёка, хаця нешта ў ім ёсць...



– Ты што, Пецька, яго п'еш?

Аказваецца, Пецька зусім не п'е. Ні нашага, ні чужога.

Не сталі дапытвацца, чаму не п'е: ці мала чаму...

– А я вам што, пра чужынскае, брашу?.. – зноў паказаў сваю дасведчанасць Росцік, круцячыся каля Пецькі.

Той згодна кіўнуў галавой, але зазначыў:

– Яно так, але ж каб ведаць, якую брыдоту нам чужынцы прысылаюць, трэба яе паспытаць. У мяне ёсць і наша. Дастаць?

Адмовіліся: у будзень – не...

Пацягнула на гутарку: а як ты? Што ў цябе? На пуп не бярэш? Не, маўляў, галавой працую, а грошы лянуюся лічыць: жонцы забава. Вунь яна ў «тачцы».

Заўважылі, што жанчына зграбная. Дагледжаная. Праўда, вельмі ж расфуфыраная. Паскардзіліся Пецьку, маўляў, Ілля так абрыдзеў усім, што хацелі пісаць пісьмо ў сталіцу, каб яго выслалі з вёскі. Але Мішка Каменьчык (ён ужо не ўчастковы, вытурылі, спіўся таксама) навучыў, што зараз няма такога закону: высылаць! «Правільна навучыў, – пацвердзіў Пецька. – Ганьбы не абабраліся б. І няўжо нашы людзі дажыліся да такога, каб на сваіх даносіць? Кажаце, пастрашыць хацелі, ну тады справа іншая. А Іллю я забяру. Таму і прыехаў. Што яму тут рабіць? Ён жа – талент, артыст. А ў маёй палавіны (кіўнуў на жонку, што сядзела ў машыне) рэстаран. А якія людзі туды ходзяць! Ёсць і такія, што добра перабяруць. Тады ірвуць на сабе сарочкі, заліваюцца слязамі і патрабуюць артыста. Ды не абы-якога, ні з электрагітарай ці яшчэ з якой трасцай, а са звычайным гармонікам. У іх гэта называецца настальгія па мінулым.

Узрадаваліся: нарэшце знайшоўся выратавальнік!.. І тут Росцік ледзь усё не сапсаваў. Выскачыў, як Піліп з канапель:

– Заартыстыўся твой Ілля! Гармонік згубіў. Словам, трынкен шнапс, гармонік шпілен...

– Нічога, – сказаў Пецька. – Я сябра ў бядзе не пакіну. Гармонік – справа нажыўная. Ды я гэтых гармонікаў магу купіць вагон з каляскай! А хваробу яго мы хутка рукой здымем. У маёй (зноў кіўнуў на машыну) сястра па гэтай частцы спец. Дваіх ужо вылечыла. Праўда, аказаліся няўдзячнымі. Збеглі. Зараз яна незамужняя. А што, калі раптам...

Засмяяўся няведама чаго.

Але павылянгоўваўся перад людзьмі Пецька ды пад'ехаў да Полінага двара. Рыпнуў варотцамі на адной завесе, знік у сенечках скасабочанай хаткі. Неўзабаве выцягнуў адтуль Іллю, укінуў у машыну і... бывай, вёска!

А яго, Пецькава, жонка, ці хто яна яму там, от вымуштраваў, з машыны нават не паказалася: ведае сваё месца. Гарадска-а-я! Не тое, што вясковыя. Яны ж ніколі не дадуць па-чалавечы ні выпіць, ні закусіць каля крамы: толькі двое-трое мужчын сыдуцца, як абавязкова, быццам з-пад зямлі, з'явіцца кабета. Не свая, дык чужая. А ў жанчын што: раты не пазашываныя...



### 3

Калі Пецька паехаў, мужчыны гадалі, як жа яна, сястра Пецькавай кралі, будзе лячыць Іллю. Росцік злараднічаў:

– Дручком! Мяне не правядзеш: нездарма я ўсе Эўропы некалі прайшоў. Нутром чую, нешта тут не тое.

– Кінь, дзядзька, дручком ёй ніхто не дазволіць, – сказаў Мішка, які вельмі пакрыўдзіўся сам на сябе за тое, што спазніўся на сустрэчу з Пецькам і не выпіў на халяву. – Мы ж у міжнароднай канвенцыі па правах чалавека. Хіба што будзе лячыць біятокамі – каб ведалі – рукамі. Экстрасэнс, няйначай. Іх зараз у гарадах развялося, як сабак: грошай у гарадскіх багата, дык займелі моду, ледзь што забаліць – не ў паліклініку, а да знахароў бегчы.

Вырашылі ў рэшце рэшт: праўду кажа Мішка ці не – не іх, вяскоўцаў, справа. І ці будзе хто лячыць Іллю ці не і як – няважна. Галоўнае, што звёз таго Пецька ў горад – дык не бачыць бы Іллю тут давеку.

### 4

Але «давеку» не атрымалася. Гады праз тры зноў з'явілася рэдкая яшчэ і па гэтым часе ў вёсцы дарагая машына – «мерс». (Усялякія бачылі. А каб «мерс», ды яшчэ, як казаў Мішка, пяцісоты, не кожны год). Але не чорны, як у Пецькі, а белы. Машына (праз задняе шкло быў бачны гармонік) праехала па вуліцы і спынілася каля скасабочанай Полінай хаты. Хто зайшоў у халупу – не заўважылі. Затое пасля абеду, калі вяскоўцы прывычна сышліся каля крамы, машына тая падкаціла сюды. (Як звычайна, мужчыны стаялі адной купкай, жанчыны – другой.) І хто з яе выйшаў, як вы думаеце? Але, Ілля. Толькі як?.. Калі машына тармазнула, з яе куляй выскачыў шафёр. У адной руцэ ў яго быў парасон, у другой – тоўсты скураны партфель. Церусіў дождждык. Шафёр падбег да пярэдніх дзверцаў. Раскрыў парасон. Адчыніў дзверцы. Сагнуўся ў крук перад пасажырам, пралепятаў:

Працяг на стар. 8-9.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 6.

– Калі ласка, Ілля Кузьміч...

Аслупянелі людзі, асабліва жанчыны: Ілля ды Кузьміч?!

Тым часам з крамы выбегла, як ёй хто сыпануў пад хвост перцу, Каця-крамніца. Грэбліва глянуўшы на людзей, кінулася да дашчатага туалета, які стаяў з двума прыадчыненымі дзвярамі, пазначанымі, як і належыць, літарамі «М» і «Ж», ляпнула апошнімі. Зараз на яе ніхто не звярнуў увагі: у іншай сітуацыі мужчыны пакпілі б, маўляў, пранясло ад дармавога, а зараз – ну хто яна такая перад чалавекам з «мерса»?.. На яго глядзелі, на Іллю. А ён, аказваецца, Ілля... Кузьміч! Дажыліся... А шафёр – парасон над ім раскрыў, не раўнуючы, як над Леанідам Ільічом (некалі бачылі такое па тэлевізары, а ў памяці засела...). Вось што робіць сталіца з людзьмі! Меў рацыю Росцік, калі казаў, што горад усіх падбярэ ды ачалавечыць. Праўда, калі галава не кляпом. А Ілля... Кузьміч высунуўся з машыны паважна. Распаўнелы. У капелюшы. Пры гальштуку. У скураным пінжаку. Прамовіў, звысаку паглядаючы на вяскоўцаў:

– Ну што, землякі, вітаю, вітаю.

Затым заўважыў Росціка, які чамусьці паспяшаўся схавацца за чужую спіну, сказаў:

– А, дзядзька Росцік, і ты тут... А ці помніш, як падбухторваў людзей супраць мяне? Што маўчыш? Калашына змакрэла? – І зарагатаў. – Я ж не забыўся, як ты мяне прымушаў на гулянках польку, падэспань ды кракавяк іграць. А на пахаваннях – марсельезу. І дзе ты яе толькі чуў? Ды кавалерыя, кажуць, ні ў якіх Еўропах не была! А, можа, ты не кавалерыст, а абознік?

Росцік паспрабаваў нешта сказаць, але Ілля спыніў яго:

– Ша!.. Дай дагаварыць. Дык вось, я – добры. Ведай, што за так у горадзе я не іграю. Я вельмі дарагі гарманіст. А калі хто хоча заказаць якую сваю любімую музыку – калі не на карову, дык – на паўкаровы грошай вынь ды пакладзі!. А вось на тваім пахаванні, дзядзька Расціслаў, буду іграць за так. Што табе, марсельезу або якое развітанне?

– А я цябе на сваё пахаванне не запрашу, вось так! – сказаў Росцік. – І ў Эўропах я быў, быў!.. Якая розніца: кавалерыя ці абоз? А калі абоз, дык што? Войска ж без абозу – не войска. Ды калі хочаш ведаць: і там і тут пры конях, от! – Росцік торкнуў пальцам угору. – Ды яшчэ ведай, што наш старшына гэтую маршалезу на трафейным губным гармоніку не горш, чым ты на сваёй «тулцы» іграў! Ён казаў, што гэта музыка важная для ўсіх людзей. Ён шмат чаго ведаў, да вайны ў Мінску на музыку вучыўся, не тое, што ты... Скажы, Ілля, чаго ты мяне палохаеш? Я ж цябе не баюся. А ці ведаеш ты, за кім мая Насця Расціславаўна замужам, га?

– На понт бярэш, дзядзька, – памякчэў Ілля. – Жыві доўга, гэта я так. Ведаю, за кім Насця. Бачыў іх у Пецькавым рэстаране. Вялі-і-ікі дзеяч! Хоць і пасаду мае, але ж такі ахламон, як і ўсе, хто з гразі ды ў князі. Падпіў, сарочку расхрыстаў, запатрабаваў, каб польку яму ўрэзаў.



Я сыграў, але за так... А на цябе я не крыўдую. Наадварот, удзячны табе. За што? Усё ж за тое: «Выселіць Іллю!» – перакрывіў ён Росціка. – А я вас усіх абхітрыў. Пецьку напісаў. Вось ён і забраў мяне туды, дзе людзі. Каб не твае бздыкі, дык я з табой і па сёння тут гной нюхаў бы. Так што выстаўляю табе скрынку «чарніла». Якое любіш, яблычнае ці слівовае? Боб, – звярнуўся ён да шафёра, які трымаў над Іллёй парасон, – дзе мой кашалёк? Ага, у цябе. Давай сюды.

Шафёр падаў Іллі партфель. Ілля толькі паспеў шчоўкнуць замком, як свіснула нешта ў паветры і на запясці яго рукі ўспыхнуў пісяг:

– Ах, алкашугі, зноў за сваё?! Бач, скрынку «чарніла»! Я што вам дазволіла?! Толькі па вёсцы праехаць, фарсануць, а вы... Ды я зараз усю гэтую хеўру...

Казалі потым, не паспела тая злыдня замахнуцца на «ўсю гэтую хеўру» (Росцік, Мішка, Віцік, Іван), як мужчын нібы ветрам здзьмула. Росцік і Мішка зачыніліся ў прыбіральні за магазінам: адзін за тымі дзвярамі, на якіх літара «М», другі, дзе «Ж», за якімі якраз «засядала» крамніца Каця: віск адтуль чуўся радасны, несусветны. Віцік жа з Іванам пераляцелі праз высокую агароджу Кацінага двара, што насупраць магазіна, і смела агрызаліся адтуль, нейкім чынам разглядзеўшы гэтую дурніцу:

– Чмо гарадское! Ідзі штангу цягай ці гной капай, калі няма куды дурную, дармавую сілу дзець! Ты чаго на людзей кідаешся? Калода дуплістая!

Казалі таксама, што «калода дуплістая», якой сапраўды па габарытах штангу цягаць, жанчын не кранула. І нават, у адрозненне ад Пецькавай кралі, павіталася з імі пасвойску: «Ну дык, добры дзень вам, маладзічкі. Я ж вашай Полькі, Паліны Рыгораўны, нявестка. А той, што за рулём – мой брат. Барыс. Артысты!.. Бач, спеліся... Я ім спяюся!.. А што ж вы, жанчынкі, так распусцілі сваіх мужчын? З імі трэба строга. Ім толькі дай спуску...»

Усё адно вясковым жанчынам яна не спадабалася. Як гэта – падняць руку на мужчыну? А брата Бобіка ці як яго, Барыса, чаму не кранула? Можа, ён і падбухторыў на штукарства нашага Іллю. Ён што табе, ануча? І дзе гэта бачна, каб так перад людзьмі зневажаць мужчыну? Хіба што ў горадзе, а ў нас – не. Ну, здараецца, выпіваюць, п'юць мужчыны. Нават рукі іншы раз распускаюць. Дык гэта ж мужчыны. А то каб жанчына так...

А мужчыны, як казаў Росцік, разбіраючы «палёты», спачатку сышліся на тым, што тая злыдня няйнакш як служыла наглядчыцай у астрозе. А можа, і служыць. Мішка ж, п'яны, біў сябе ў грудзі, абараняючы органы, з якіх яго вытурылі, што зараз такіх і там няма: забаронена, ёсць жа Канвенцыя... А Віцік сказаў: «Ды яна існы дзед Кашырын». І патлумачыў: маўляў, быў у Максіма Горкага такі дзед. Дык ён хлопчыка, будучага пісьменніка, таксама ні за што лупцаваў.

– Ну вось, бачыш, затое якім вялікім чалавекам стаў той хлопчык, – чамусьці ўзрадаваўся Росцік і дадаў: – А вось з нашага Іллі ўсё адно нічога талковага не выйдзе, лупцуй яго не лупцуй. Натура такая. Арты-ы-ыст!.. Словам, трынкэн шнапс, гармонік шпілен...

Мужчыны смяяліся. Аднак Іллю шкадавалі. А што? Лепш бы ён у вёсцы халасцяком боўтаўся. А то, бач, у горадзе прыжаніўся! У рэстаране багатым полькі іграе, дагаджае іх капрызулям, няхай і за вялікі рубель. Але ж не жыццё гэта, не жыццё. Ды яшчэ з такой бабай.






Мікола ГІРГЕЛЬ.




Уладзімір ЧУГЛАЗАЎ.



Юрый МІХАЙЛАЎ.




# СЛОВАМ ВАЯВАЎ І ЖАРТАВАЎ


Шарж Канстанціна КУКСО, 1976.

*Паэт, празаік, перакладчык, таленавіты гумарыст Антон Пятровіч БЯЛЕВІЧ нарадзіўся 27 мая 1914 года ў вёсцы Дуброўка, што на Уздзеншчыне. Да вайны працаваў у газетах «Чырвоная змена», «Звязда». У гады ліхалецця ўдзельнічаў у партызанскім руху на Віцебшчыне, ваяваў у тыле, выкарыстоўваючы эфектыўную зброю — гнеўнае і вострае сатырычнае слова. Яго творы, што змяшчаліся ў знакамітай газеце-плакаце «Раздавім фашысцкую гадзіну», служылі адзінай мэце — наблізіць перамогу над ворагам.*

*Літаратурная спадчына Антона Пятровіча — гэта шматлікія кнігі паэзіі, вершы і проза для дзяцей, шэраг дакументальных аповесцей, зборнікаў нарысаў... І, вядома ж, вясёлыя ды колкія творы! Іначай і быць не магло: гумар з паэта, як казалі, сыпаўся сам. Па-народнаму дасціпны, нечаканы на вострае слова, творца пры жыцці і сам станавіўся героем вясёлых баек-быліц, што складалі пра яго калегі па пяры. Карыкатурысты ж малявалі ягоны твар у выглядзе спелага яблыка — наліўнога антона. Пісьменнік на ўсё гэта ані не злаваўся: яму ўласціва была здаровая самаіронія.*

*Гумарыстычныя творы Антона Бялевіча рэгулярна друкаваліся ў «Вожыку», у 1963 годзе пабачыла свет яго кніга вершаваных фельетонаў «Маштабны Міканор». З дня нараджэння пісьменніка прайшло ўжо 105 гадоў, але актуальнасць раскрытых аўтарам тэм не выклікае сумнення і сёння.*

**Антон БЯЛЕВІЧ**

## КЛАСІКІ І СЫЧЫ



Прачытаў артыкул я крытычны.
Бугаём раз'юшаным раве:
– Вершам і традыцыям класічным
Я прысуд выношу: хай жыве
Новы верш, які без рыфмы-лейцаў,
Хай сабе ён коціцца улегцы,
Хай ідзе расхрыстаны сабе.
Сорамна іграць нам на жалейцы,
Хай наш век заграе на трубе;



На трубе, на коміне завода,
На магутным рокаце турбін.
Вёска і палетак — выйшлі з моды
Ў век наш кібернетыкі, машын!..

Ад імя працоўнага народа
Я пытаюся, грамадзянін,
Дзе падзенем Пушкіна мы творы,
Спадчыну вялікую яго?
Не замкнуць жа нам яе ў каморы,
Не кідаць жа нам яе ў агонь!



А куды падзець нам Льва Талстога.
Гогаля, Някрасава куды?
А Купалу, Коласа старога
Дзе падзенеш, рыцар малады?




Новаму цярэбячы дарогу,
Спадчыну народа не тапчы,
І ў мяне за новае трывога,
Рады новай змене памагчы.

Мух душыць у носе?.. Гэта мода
Ці наватарства у век машын?
Ад імя працоўнага народа
Я пытаюся, грамадзянін:
Вёска непатрэбнай ужо стала,
Да яе дарогі замяло?..
А каб жыў вялікі наш Купала —
Сэрца б яго песні выкрасала
Пра сучасны горад і сяло.



А каб жыў вялікі родны Колас,
Каб не лёг стары ў магільны склеп, —
Славіў бы сардэчна ў поўны голас
Мірны атам, сталь, зямлю і хлеб.
Перайначан быт наш чалавечы,
Новы ўклад жыцця мне не чужы.
Узялі машыны груз на плечы,
Замяніўшы дугі і гужы...
А як хлеб вырошчваюць, дарэчы,
Баявы «наватар», адкажы?
А як выпякаюць хлеб у печы,
Замясіўшы цеста у дзяжы?





Што ж маўчыш, «герой»? Не нюхаў цеста?..
Не прайшоўся свежай баразной?..
А ўжо стала з класікамі цесна,
На традыцыі ідзеш вайной!

А ў цябе, «наватар», што за муза?
І куды заве, куды вядзе?
Вершыкам расхістаным не тузай
Ты душу маю, душу людзей.

Ты крычыш: — Стаю я на платформе
Моднасці! Старое — па баку!..
А твая разбураная форма,
Як гавораць, — з гора пакукуй!

Ты крычыш: — Я грукат перуновы,
Я вулкана выбух, медзі звон!..
А мілей званок мне жаўруковы,
Салаўіны голас між дубровы,
Чым вулкан пякельны, выбуховы.
Чым савіны рогат, крык варон.



Любы мне жалейкі пералівы,
Хоць трубой гарластай не раве...
Не, не выйшлі з моды яшчэ нівы,
Не, яна, традыцыя, жыве!

Класікі жывуць, жывуць іх творы,
А мы з імі сэрцам і душой.
І, ляцеўшы ў зорную прастору, —
Заручоны з роднаю зямлёй.

І ў шляху вялікага пахода
Будзем славіць песняй гул машын.
Ад імя працоўнага народа
Я пытаюся, грамадзянін,
А ці маеш ты, скажы, ўяўленне —
Што такое ў вёсцы маякі?
Ці адрозніш проса ад ячменю,
Валакно льнянoе ад пянькі?



Ну, а што такое сепаратар?
«Ёлачка» на ферме? Што? Маўчыш?
Абазваўся:
— Знаю, агрэгатар...
Ды які ж да д'ябла ты наватар! —
У дупле, як сыч, сядзіш, шыпіш.
Зрок твой асляпляюць промні ўсходу,
Ты прывык да цёмнае начы...
Ад імя працоўнага народа
Заяўляю:
— Змоўкніце, сычы!

*«Маштабны Міканор», Мн., 1963 г.*



Алег КАРПОВІЧ.







# На кані і пад канём

Што мы ведаем пра гімнастыку? «Ну, гэта проста!» — адкажуць мне аматары спорту. Любы школьнік знае, што **гімнастыка** — гэта сістэма фізічных практыкаванняў для ўмацавання здароўя і ўсебаковага фізічнага развіцця асобы, а гімнастычныя практыкаванні былі вядомыя за 3 тысячы гадоў да н. э. ў Кітаі і Індыі.

Між тым, вылучаюць тры віды гімнастыкі: асноўная, спартыўная і дапаможная. Нас больш цікавіць, вядома, тая, што ўключана ў праграму II Еўрапейскіх гульняў — гэта спартыўная.

**Спартыўная гімнастыка** апрача спецыяльна падабраных (вольных) практыкаванняў уключае практыкаванні на спартыўных снарадах (брусы, перакладзіна, бервяно, «конь», батут і інш.), з рознымі прадметамі (скакалка, мяч, абруч і інш.); некаторыя практыкаванні ідуць з музычным суправаджэннем. І прыгожа, і па-майстэрску, і з музыкай!..

## З каментатарскай кабінкі

*«Украінская гімнастка, не паспеўшы заскочыць, ужо саскочыла».*

*«Добра выступаюць амерыканскія гімнасткі... Будзем спадзявацца, што суддзі гэтага не ацэняць».*

*«У гэтай гульні ўсё яшчэ наперадзе, хоць яна ўжо завяршылася».*

Калісьці ў далёкім 1972 годзе на гульнях XX Алімпіяды нашыя Вольга Корбут, Антаніна Кошэль і Тамара Лазаковіч упершыню перамаглі ў камандных спаборніцтвах, а 17-гадовая В. Корбут яшчэ і абскакала ўсіх сапернiц на бервяне («золата») і ў вольных практыкаваннях на брусах («срэбра»). Менавіта тады, у нямецкім Мюнхене, усе ўпершыню загаварылі пра «беларускую школу гімнастыкі»... А вось сярод мужчын адназначным героем XXV Алімпіяды ў Барселоне прызнаны наш гімнаст Віталь Шчэрба, на рахунку якога шэсць медалёў вышэйшай пробы. Такога гісторыя алімпійскай гімнастыкі яшчэ не ведала...

Існуе і **мастацкая гімнастыка** — спаборніцтвы жанчын у выкананні пад музыку камбінацый розных пластычных і дынамічных гімнастычных і танцавальных практыкаванняў з прадметам (абруч, булава, мяч, скакалка, стужка) і без яго.

Як від спорту ўзнікла ў СССР у 1940-я гады. Першы чэмпіянат СССР адбыўся ў 1949 годзе, а на Беларусі — у 1951.

## Навіны спорту

*На чэмпіянаце свету па лёгкай атлетыцы кенійскі бягун заблытаўся ў фінішнай стужачцы і заадно выйграў золата ў мастацкай гімнастыцы.*

Да гімнастыкі таксама адносяцца акрабатыка, аэробіка і скачкі на батуце.

**Акрабатыка** ўключае шматлікія фізічныя практыкаванні. Удзельнічаюць мужчыны і жанчыны паасобку, з партнёрам, групай. Часам выкарыстоўваюцца спецыяльныя прылады (трамплін, батут). Уключана ў алімпійскія віды спорту ў 2016 годзе. І беларусам ужо ёсць чым ганарыцца. Напрыканцы красавіка на спаборніцтвах этапа Кубка Свету менавіта нашыя акрабаты ўзялі ды асабістым «сальтамартале» выйгралі «золата»! Прычым як у жаночых, так і ў мужчынскіх парах. Брავісіма!



**Аэробіка** як праграма фізічнага аздараўлення на аснове фізічных практыкаванняў пераважна цыклічнага характару (хадзьба, бег, плаванне і іншае) была распрацавана ў 1960-я гады амерыканскім урачом Кеннетам Куперам. Выкананне гэтых практыкаванняў на працягу пэўнага часу спрыяе разгортванню і павелічэнню дыхальных (аэробных) магчымасцей арганізма.

Ну, а **скачкі на батуце** – гэта высокія падскокі на спартыўным батуце з пераваротамі і вярчэннем. Від спорту з элементамі акрабатыкі. Да 1940-х гадоў выкарыстоўваліся як сродак трэніроўкі спартсменаў, пілотаў і парашутыстаў, уваходзілі ў цыркавыя праграмы.

На завяршэнне, шаноўныя вожыкаўцы, аздароўленыя ўсялякімі гімнастыкамі, пачытайце ды ўсміхніцеся з такога паведамлення. Што ж, як кажуць, на кані і пад канём!..

## СУСВЕТНЫ АЛІМПІЙСКІ РЭПАРТАЖ

– Добры дзень! Мы вядзём рэпартаж з нашай адмысловай Алімпіяды. На ёй адсутнічае любы допінг-кантроль. Так-так, спартсменаў не правяраюць на допінг. Зусім. Такім чынам...



– На 27 метраў скокнуў фінскі спартсмен. Вельмі, вельмі нядрэнны вынік для шахматыста...

– Толькі што здзейсніў скачок з шастом беларускі лёгкаатлет. Гледачы з нецярпеннем чакаюць, калі ж ён нарэшце прызямліцца...

– Аргкамітэт прыняў рашэнне не выпускаць сёння кідальнікаў молата ў мэтах бяспекі...

– А ў марафоне традыцыйна перамагае бягун з Кеніі. Ён адзіны, хто дабег да Кеніі...

– Толькі што стала вядома, што кудысьці знік увесь аргкамітэт. І на пляцоўку ўсё ж выходзяць... кідальнікі молата...

– Канадскі веласіпедыст, спяшаючыся, забывае на старце веласіпед... Але гэта не замінае яму прыйсці да фінішу першым!..

– А зараз наша традыцыйнае саракабор'е. Давайце паглядзім выступ расійскага спартсмена... Вось ён прабягае тысячу метраў. Скачок з шастом. Узяў штангу. Прабег стаметроўку. Паклаў штангу. Шайбу, шайбу! Шах, мат! Го-о-о-ол! Выдатны вынік! І спартсмен заходзіць на другі круг...

**Вядучы рубрыкі аматар спорту**
**Аляксандр ЗОТАЎ.**

*Працяг у наступным нумары.*




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




Анастасія СКАРКО і Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.







Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА х 2.




Пётр КОЗІЧ.




Аляксандр КАРШАКЕВІЧ.




Сустрэліся два былыя аднакласнікі.

– Ну, Мікола, я нарэшце жанюся!

– Віншую! Толькі ты, Дзіма, адразу дай зразумець, хто ў сям'і галоўны.

– А як гэта робіцца? Лупцаваць ці грошай не даваць?

– Ды не... Проста перастанеш мыць бялізну, варыць, прыбіраць і праз тыдзень жонка – як шаўковая!



З дваровай дзіцячай пляцоўкі хлапчук крычыць наверх:

– Мама-а-а! Ма-ма-а-а!

На балконе з'яўляецца маці. Пытае:

– Што такое?

– Пакліч тату!



Праз мытны кантроль праходзіць мужчына, які вярнуўся з падарожжа па Англіі. Пры праверцы яго багажа мытнікі ажно ахнулі. Усе чамаданы і сумкі былі набіты іншаземнай валютай.

– Адкуль гэта? – запыталіся яны строга.

– З задавальненнем раскажу! Да пасадкі на мой рэйс заставалася некалькі гадзін вольнага часу. Выйшаў у скверык, а там англічане ў ачко гуляюць. Я папрасіў і сабе карту. Гуляем. Адзін англічанін кажа: «У мяне ачко!» Я яму: «Пакажы!» А ён: «У нас на слова вераць!» І тут у мяне карта папёрла!..



Размаўляюць два халасцякі.

– Купіў кнігу кулінарных рэцэптаў, – кажа адзін. – Але высветлілася, што не змагу ёй карыстацца!

– Гэта чаму?

– Там кожны рэцэпт пачынаецца аднолькава: «Вазьміце чыстую талерку...»



## Нячысты на рыбу

***Бярозаўскі раён.*** Некаторыя асцерагаюцца і не рызыкуюць пускаць казла ў агарод, бо калі ён туды трапіць... Вось і вартаўнік на адным прадпрыемстве не здолеў абараніць маёмасць ад... самога сябе і ўкраў больш чым 500 кілаграмаў рыбы на агульную суму звыш 2000 рублёў.

«Улоў» схаваў у багажніку ўласнага аўтамабіля. Ды далёка ад'ехаць нячысты на рыбу вартаўнік не здолеў: яго затрымалі. Праводзіцца праверка.



## Паездка ў... турму

***Бабруйск.*** «Цішэй едзеш — далей будзеш», — вырашыў неаднаразова судзімы мясцовы жыхар, калі сеў за руль чужых «Жыгулёў». (Гаспадар пакінуў ключ у замку запальвання і не зачыніў дзверцы.)

Але асцярожная язда хутка скончылася: менш чым праз сто метраў аўтамабіль наехаў на плот.

Лепш бы злодзей узгадаў: «На чужое дабро нясі слёз вядро»... За такую паездку яму «свеціць» да пяці гадоў зняволення.




## Грошы пахнуць

***Мінская вобласць.*** Кажуць, што грошы не пахнуць. Гэта паспрабавалі праверыць 18-гадовы мінчанін і яго 17-гадовая дзяўчына з вёскі Тарасава. Маладыя людзі вырашылі зарабіць на вяселле і сямейнае жыццё, гандлюючы... наркотыкамі.

На 100 рублёў яны купілі ў інтэрнэт—краме 10 грамаў атруты, якую хлопец расклаў. Затым узялі большую партыю, і яшчэ... Між тым, куратар не спяшаўся разлічвацца, а толькі бясконца прапаноўваў на заработную плату набываць новы тавар.

Абяцаных і зробленых 1000 долараў заказаных так і не дачакаліся: іх затрымалі. Наркатычныя грошы «пахнуць» турмой: маладым людзям пагражае тэрмін да 15 гадоў...

## Дастраляўся

***Гомель.*** Навучэнец, адзін з лідараў каляфутбольнай неанацысцкай групоўкі, прыхільнік і распаўсюджвальнік ідэй фашызму, пераблытаў аўтамеханічны каледж з... ціром. Хуліган абстраляў з пнеўматычнага пісталета вокны, падлогу і стэнд з фотаздымкамі выкладчыкаў.

Трапнасць «звышчалавека» ацанілі па заслугах. Узбуджана крымінальная справа.

## Адзін другога...

***Ліда.*** Неяк дзевятнаццацігадовы хлопец знайшоў чужую банкаўскую картку. Але не пайшоў з ёю ні ў банк, ні ў міліцыю. Рушыў да банкамата...

— Трымай, гэта табе, — працягнуў ён сябру 80 рублёў.

— Што за грошы?

— Нехта згубіў банкаўскую картку. А я што, дурань, каб шукаць яе ўладальніка? — усміхнуўся лідчанін.

— Сапраўды, такі «падарунак лёсу» рэдка бывае, — прыяцель хуценька схаваў купюры ў кішэнь.

Вось так адзін другога даводзіць да ліхога. У адносінах маладых злодзеяў узбуджаны крымінальныя справы.




*Па інфармацыі прэс-цэнтра Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.*

---

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

## АДНАРАДКОЎІ

Не пагражайце голымі нагамі...

* * *

О, колькі не спазнаць мне асалоды!..

* * *

Не пазваніце мне, я вам дарую...

* * *

Бывайце, вас я не пакіну...

* * *

О, колькі таямніц хавае цемра!..

* * *

Дзе — вас? Сябе не зразумець!..





* * *

Няма канца ў кахання аніколі...

* * *

О, колькі я да вас не ведаў!

* * *

Вы так зірнулі, што хачу працягу...




## ХТО ПРАЙДЗІСВЕТ?

Меў мянушку мой сусед
Вельмі дзіўную: Карнет.
Даўні афіцэрскі чын
Тут, вядома, ні пры чым.
З выпраўкаю баявой
Быў не на перадавой:
Крокам страявым штодня
Ён да крамы шыбаваў,
Бо – няма чаго таіць! –
За каўнер любіў заліць.
Ды сямейную скарбонку
У сябе трымала жонка.

За гады жыцця кабета
Добра ведала Карнета,
Таму грошы забірала,
Ад яго ўвесь час хавала.
Дадуць пенсію ў суботу –
Так сто грам узяць ахвота!
Што рабіць і як тут быць?
Як жанчыну абхітрыць?
Трапіўся яму на вочы
Шэры прыгажун-каточак.
Падкі гаспадар да чаркі,
А Маркіз – да валяр'янкі.
«Нюх хвастаты добры мае,
Лек пахучы адшукае», –
Думаў так сабе Карнет.
Блізіцца між тым абед,
І з хвіліны на хвіліну
Паштальён прыйсці павінен.
Жонка кашалёк дастала,
На стале яго паклала.
Карнет момант улучыў –
Валяр'янкаю абліў...
Верны кот сваёй прыродзе:
Схованку заўжды знаходзіў.



Жонка колькі ні хавала –
Штосьці грошай убывала...
Але выкрыла аферу!
Трэба ж так: няма даверу
Нават да вусатага.
Знайшоў памагатага!
Ката жонка пакарала –
Ў хату месяц не пускала.
Хоць, папраўдзе, прайдзісвет
Не Маркіз, а сам Карнет...

**Леакадзія ДЗЕВЯТОЎСКАЯ-ЯНЦЭВІЧ**,
*Пастаўскі раён,*
*г. п. Варапаева.*




Юрый МІХАЙЛАЎ.




Два дзяды сядзяць у парку,
Тэма для размовы ёсць.
– Эх, чаму людзей так шпарка
Пакідае маладосць?

Старасць мне зусім не сябар,
І хвароба – дрэнны госць.
Я любому даў бы хабар,
Каб вярнулі маладосць!

Памятаю, птушкай лётаў,
Пад сабой не чуў зямлі.
А цяпер мяне турботы
Да бальніцы давялі.

Моладзі на злосць сучаснай
Я перавярнуў бы свет,
Бо ў галовах іхніх – ясна! –
Адзін толькі інтэрнэт.

– Ат, не злуйся, не сварыся,
Наракаць прывыклі спрэс...
А на маладых – згадзіся! –
Ўвесь трымаецца прагрэс.

Не пад сілу нам з табою
Супыніць імклівы час.
Пакаленне ж маладое
Ўсё-ткі лепшае за нас!

**Іван АСТРОЎСКІ,**
*г. Мінск.*

**Ганна ЛЕО**

# Чаго баяцца жанчыны?

*Быль*

У маленькім правінцыяльным гарадку N. жыло некалькі тысяч чалавек.

Тысяча — цікавае слова. Калі гаворыш пра грошы, гучыць шматабяцальна, а калі, напрыклад, пра насельніцтва — драбніцца да пясчынкі.

Каб гараджанам было дзе працаваць, тут яшчэ даўно пабудавалі кардонна-рубероидны завод і хлебакамбінат.

З аднаго прадпрыемства работнікі плаўна перацякалі на другое і наадварот, таму кіраўнікі ведалі іх ледзьве не па імёнах і імёнах па бацьку. А жыхары, сутыкаючыся адзін з адным не толькі на працы, але з пятніцы па нядзелю і ў гарадской лазні, таксама маглі ўсклікнуць: «Нешта мне ваш твар знаёмы!»

Словам, жыццё ў горадзе N. цякло па-правінцыяльнаму спакойна і ўраўнаважана....

І раптам — бах! З’явіўся гвалтаўнік!

Жаночая палова страпянулася і зашапталася, мужчынская — наструнілася і падцягнулася.

То тут, то там чуліся шматлікія падрабязнасці пра страшныя злачынствы. Дзякуй богу, трупаў і вычварэнства не назіралася.

Праз тыдзень пасля першага здарэння злачынец мог смела лічыцца самым актыўным сексуальным маньякам у гісторыі чалавецтва і запісваць сваё імя у Кнігу рэкордаў Гінеса, бо разам з чуткамі ў геаметрычнай прагрэсіі расла і колькасць ахвяр.

Колькі іх было дакладна, ніхто ўжо не мог злічыць. Скептыкі загадкава пасміхаліся: а дзе ахвяры? Што кажа міліцыя?.. Цішыня...

Трывожныя часы надышлі ў горадзе...

Дырэктар кардонна-рубероиднага завода Альберт Іванавіч Авечкін сядзеў у кабінеце і слухаў даклад галоўнага бухгалтара Франца Францавіча пра эканамічныя праблемы прадпрыемства.

Захавальнік фінансаў уздыхаў і вохкаў, бядуючы, як заўсёды, пра нястачу сродкаў.

Альберт Іванавіч вельмі цаніў Франца Францавіча, бо той быў сапраўдным бухгалтарам. Усё ў яго ўлічвалася, запісвалася і запаміналася, нават тое, колькі ручак і алоўкаў расходаваў той ці іншы супрацоўнік за справаздачны перыяд.

Чарговы ўздых знаўцы лічбаў перапыніў шум у прыёмнай.

Дзверы расчыніліся, і ў кабінет уляцела майстар кардоннага цэха Эла Мардзюкова, а за ёй — сакратарка Людачка.

— Альберт Іванавіч... — захныкала апошняя.

— Людміла, усё ў парадку. Ідзі працуй.

Авечкін лічыўся дэмакратам.

Франц Францавіч насупіў бровы: яму, чалавеку перадпенсійнага ўзросту, было непрыемна назіраць вольнасці ў пытаннях субардынацыі, і ён запытальна паглядзеў на кіраўніка.

— Франц Францавіч, перадыхні крыху. А я пакуль паслухаю лепшага спецыяліста нашага прадпрыемства. Такім чынам, Эла, што здарылася такое асаблівае? Чаму ты ўрываешся да мяне ў кабінет у разгар нарады? — звярнуўся дырэктар да парушальніцы спакою.

— Што хочаце са мной рабіце, але я ў камандзіроўку не паеду! — выпаліла тая і плюхнулася буйным целам на крэсла насупраць галоўнага бухгалтара.

— Но-но, не паедзе яна! Загад быў, і ўжо грошы атрымала, а зараз, бач ты, не паеду, — абурыўся той.

— У якую камандзіроўку? — спытаў дырэктар.

— Ды пасылаюць іх тут на павышэнне кваліфікацыі, — патлумачыў зноў бухгалтар і дадаў: — Невядома, куды толькі грошы расходуем.

— Зразумела, — сказаў Альберт Іванавіч і зноў пацікавіўся ў супрацоўніцы. — Ну, дык што такое адбылося? Чаму ты не можаш паехаць у горад К.?

— А вы ведаеце, што цягнік ад’язджае позна, ажно пасля дванаццаці, і да вакзала трэба ісці цёмнымі вуліцамі? — адкінуўшы з твару чорную доўгую грыўку, спытала Эла.

— І што?

— А тое, Альберт Іванавіч, што ў горадзе дзейнічае гвалтаўнік і выходзіць ён на паляванне якраз пасля адзінаццаці гадзін ночы.

— Дык у цябе цягнік пасля дванаццаці. Можа, праскочыш, — з’едліва сказаў галоўны бухгалтар і пацікавіўся. — Табе вось колькі гадоў, Эла Аляксееўна?

— На пенсію, як некаторыя, пакуль не збіраюся, — агрызнулася тая.



Пачатак. Працяг на стар. 18.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 17.

— Так, спыніцеся, — суровым голасам сказаў дырэктар. Ён яшчэ крыху падумаў. — Ведаеш, Франц Францавіч, а Эла мае рацыю. Навошта нам рызыкаваць старымі кадрамі? Мяняй загад і расходныя дакументы. Пасылай у камандзіроўку маладога спецыяліста Сіманяна. Ён мужчына, чаго яму баяцца?

— Вось вам дзякуй, Альберт Іванавіч, — мажная жанчына імкліва ўсхапілася з крэсла.

— Толькі я ніяк не разумею... Ты ў нас такая смелая дзе трэба. І дзе, можа, не трэба...

— Між іншым, тры разы замужам была, — уставіў свае пяць капеек няўрымслівы Франц Францавіч.

— Тым больш, — працягнуў дырэктар. — І спужалася нейкага гвалтаўніка?

— А хто вам сказаў, што я гэтага згвалтавання баюся? — Эла какетліва павяла плячамі.

— Чаго ж тады? — мужчыны пераглянуліся.

— А таго, што ён перад гэтым самым па галаве б'е! Я за мазгі перажываю.

І Эла з пераможным выглядам выйшла з кабінета.

— Колькі жыву, ніяк не магу зразумець гэтых жанчын. Вечна за ўсё перажываюць. Нават за тое, чаго не маюць... — не вытрымаў Франц Францавіч.

У гадзіну ночы, знаходзячыся ў памяшканні чыгуначнага вакзала, які прадзімаўся з усіх бакоў, худзенькі Сіманян дрыжаў усім целам ды ўзгадваў нядобрымі словамі і нахабную Элу, і мяккацелага дырэктара, і шмат каго яшчэ.

Гвалтаўнік у яго маўклівым маналозе адсутнічаў.

Той быў як фантом горада N.: усе пра яго чулі, усе баяліся, але ніхто не бачыў...




*г. Масква.*

## Малюе Алег ПАПОЎ












Галоўны ўрач псіхіятрычнай бальніцы
Вузлы вязаць умееце?..
Патрабуюцца санітары


Тараканавыя скачкі
Уцякаем: допінг!
Дыхлафос


МУХА!


СВЧ


Камандзір, дабі мяне!..


Бедны Ёрык!







**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## РОСНАЯ РАНІЧКА

Ноч да ранку згінула
У туманнай далі,
На траве пакінула
Росныя каралі.

Папілі расы чмялі –
Вабяць іх палёты,
Узляцелі-загулі,
Быццам самалёты.

Конік аж пачаў спяваць:
– Я расой паснедаў
І на скрыпачцы іграць
Буду да абеду.

Зёлку Мурашок нясе
Стомлены, панылы,
Пакупаўся у расе –
Дадалося сілы.

Сталі росы высыхаць,
Сонца ярка свеціць.
Маці кліча:
– Годзе спаць,
Уставайце, дзеці!



**Лёля БАГДАНОВІЧ**




*Казка*

Прыйшло сапраўднае доўгачаканае лета. У адзін са спякотных дзянькоў маленькая пчолка Жужэла збірала пылок з кветак. Добра папрацавала, час ужо і да вулея свайго ляцець. Ды нечакана аднекуль напаўзлі чорныя хмары. Зусім сцямнела. Бліснула маланка. Грымнуў гром і сыпануў дождж.

Разгубілася Жужэла, не ведае, што рабіць і куды падзецца. Схавалася пад нейкі лісток, уся калоціцца ад страху. І раптам убачыла побач незнаёмца.

– О-ё-ёй, – запішчала пчолка, – хто гэта тут?

– Не палохайся, гэта я, павучок Сымонка. Пайшлі ў маю хатку, там зацішна. Пераседзіш непагадзь ды паляціш сабе далей. Можа, з выгляду я страшнаваты, але на самай справе нічога дрэннага табе не жадаю.

Сымонкава жыллё было прыгожым: паўсюль карункавыя сурвэткі, вазачкі з кветкамі. Пасадзіў гаспадар сваю госцю за стол, наліў кубак духмянай гарбаты, паставіў сподачак з малінавым варэннем. Пачаставалася Жужэла, а пасля яны ўдваіх з павучком селі на карункавы гамак і пачалі гушкацца. Нешта расказвалі, перабіваючы адно аднаго, смяяліся, спявалі. Так было пчолцы весела, утульна, што і не заўважыла, як дождж скончыўся і вечар ахінуў наваколле.

– Сымонка, мне трэба вяртацца, а то зачыняць хатку на замок, дзе я начаваць буду?

Сябрам не хацелася развітвацца. Павучок прапанаваў:

– А давай я цябе крышку правяду.

– Мне будзе вельмі прыемна, – адказала Жужэла, – але як ты сабе гэта ўяўляеш? У цябе ж няма крыльцаў.

– Зараз нешта прыдумаю!

Сымонка дастаў з-пад ложка жмуток павуціння, ухапіўся за яго – і паляцеў, як на парашуціку, побач з пчолкай. Ён не ведаў, як будзе вяртацца назад, ды нават і не думаў пра гэта. Прыдумае потым, як праводзіць Жужэлу.

Вось на якія ўчынкі здольныя сапраўдныя сябры!



*г. Барысаў.*

**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

# СКОРАГАВОРКІ

Просіць Лорка Борку
Выгаварыць скорагаворку.

* * *

— Кар-р! Кар-р-равул! —
Закаркала варона. —
На др-р-рэва лезе Р-р-рома.
Тр-р-рэба Р-р-рому р-ратаваць,
Бо зваліцца немудр-р-рона
І р-руку зламаць.



* * *

Галаваломку разгадвае Ромка,
Толькі не простая галаваломка.



* * *

Палюбуйцеся на рака:
Крочыць ракам небарака.

* * *

Ехаў да сяброў Алег,
Вёз з сабою смеху мех.
У мяху смех рассмяяўся,
І ад смеху мех парваўся.

* * *

Чатыры чорныя гракі
Крычалі гучна ля ракі.

* * *

Прыехаў сябар Давыд
Да Эдуарда з Караганды.

* * *

Дзяцей мядзведзь старанны, строгі
Трэніруе ля бярлогі.
Вучацца медзведзяняты
Спрыту, лоўкасці у таты.






Комікс Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ і Міхась СТЭФАНЕНКА.




**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

## Чаму млынар Вадзяніка салам частаваў?



Як у кожным лесе жыў свой Лесавік, так у кожнай рэчцы альбо возеры меўся свой Вадзянік. Ды ці толькі ў гэтых вадаёмах! У кожнай сажалцы і нават у кожнай студні павінен быў жыць гэты дух. Хоць, на мой погляд, у студні яму ўсё ж цеснавата даводзілася...

Знешнім выглядам Вадзянік пахваліцца не мог. Ногі тонкія, з перапонкамі альбо наогул замест ног – рыбін хвост. Валасы доўгія, зялёныя, барада з водарасцяў, вочы пукатыя, нібыта ў жабы... Відаць, з-за непрывабнай знешнасці Вадзянік, у параўнанні з Лесавіком, быў больш злым і помслівым. Пры першым зручным выпадку ён імкнуўся загубіць чалавека.

Магчыма, такое ўяўленне пра Вадзяніка ўзнікла ў нашых продкаў таму, што колькасць рыбакоў ці проста адпачываючых, што гінулі штогод на вадаёмах, была непараўнальна большай за колькасць спачыўшых у лесе грыбнікоў альбо паляўнічых.

Калі Лесавік не любіў паляўнічых, то Вадзянік цярпець не мог рыбакоў. Раз'язджаючы пад вадой на самай вялізнай рыбіне вадаёма (часцей за ўсё, гэта быў сом, але і вялізны шчупак таксама падыходзіў на ролю транспартнага сродку для воднага спадара), злосны дух адганяў рыбу ад сетак, а самі сеткі рваў альбо чапляў іх за падводныя карчагі.

Уважліва пільнуючы тых, хто купаўся, Вадзянік часам спрабаваў знянацку ўхапіць каго за ногі і зацягнуць пад ваду. Асабліва небяспечна было купацца альбо лавіць рыбу апоўдні і апоўначы: водны дух абавязкова паспрабуе такога чалавека ўтапіць. А жанчыну дык яшчэ і ператварыць потым у русалку. (Але пра русалак мы ў наступны раз больш падрабязна пагаворым.)

Вадзянік, што жыў у студні, нягледзячы на сціплыя памеры, таксама мог налаўчыцца і зацягнуць да сябе ў жытло таго, хто нізка нахіляўся альбо падоўгу ўглядваўся ў водную паверхню.

Дарэчы, ратаваць тапельца, а, значыцца, спрабаваць адабраць у духа законную здабычу, нашы продкі асцерагаліся, каб не наклікаць гнеў воднага гаспадара на сябе і сваіх блізкіх.

Вадзяніка можна было сустрэць у любой частцы вадаёма, але самымі любімымі ягонымі месцамі з'яўляліся затокі рэк, віры і плаціны вадзяных млыноў. Таму лічылася, што гэты дух заўсёды сябруе з млынаром і аказвае яму ўсялякую дапамогу. Але можа і нашкодзіць, калі што якое... Таму млынары, каб не ўгнявіць свайго апекуна, пры першых жа замаразках, калі вада пакрывалася тонкай скарынкай ільду, апускалі пад кола млына кавалак сала. Інакш Вадзянік падчыстую зліжа змазку на восі кола, і яно будзе ўвесь час рыпець.

Вось так людзі жылі ў міры і згодзе з водным духам, што меў няпросты характар і не вельмі любіў жартаваць.




Змучаныя штаты Амерыкі.
Кніга рэкордаў фітнесу.
Новы ход.
Фінгал гульні.

**Заўважыў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

Адзінокі цень.
Бляшаны жах.
Галодны суп.
Дарожны друк.
Драпежны пот.
Шаўкавісты клён.



**Заўважыў Мікалай НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

Абмен попытам.
Аб'едзены перапынак.
Аконная драма.
Анамальная заява.
Аўтатрасца.
Багатая паўлітра.
Варожы сан.
Горалыжнік.
Горанасенныя культуры.
Дармавед.
Драпанае паліто.



Дробныя стравы.
Каменныя спевы.
Камічны апарат.
Каравела прыгажосці.

**Заўважыла Соф'я КУСЯНКОВА,**
*Рагачоўскі раён,*
*в. Лучын.*








Анастасія СКАРКО х 3.

# Яўрэйскія анекдоты

## Прабачэнне зла

Адзін стары адчуў, што прыйшоў яго смяротны час, і кажа жонцы:

– Пакліч свата.

– Ты што, жаніцца сабраўся? А як жа я?

– Не, не жаніцца, а памерці. А перад смерцю яўрэй павінен прабачыць усім, хто зрабіў яму зло. Самае вялікае зло зрабіў мне сват.



## Няшчасце

– Ведаеш, у Рабіновіча вялікае няшчасце.

– Што здарылася?

– Ён уцёк з маёй жонкай.

## Нявыгадная пакупка

– Купіце матацыкл, – прапанавалі местачковаму яўрэю. – На яго вячарам сядзеш тут, а на золку будзеш ужо ў Мінску.

– Нявыгадна купляць мне такі матацыкл.

– Чаму?

– А што мне так рана ў Мінску рабіць? Яшчэ ўсе магазіны будуць зачынены.



## Каверзнае пытанне

Гершэле заходзіць да равіна і пытае:

– Рэбе, па яўрэскім законе, калі ў суботні дзень карова залезе ў агарод, можна яе выгнаць адтуль ці не?

– Канечне, не, – кажа рэбе, – выганяць карову з агароду лічыцца працай, а ў суботні дзень працаваць нельга. Гэта будзе цяжкі грэх перад Богам.

– Рэбе, але яна ж папсуе там усе вашы пасевы.

– Дык карова ў маім агародзе? Зараз жа ідзі і выгані яе. Адразу б так і сказаў, а не пытаўся.

*«Лэхаім! З яўрэйскага фальклору»*
*(саст. Э. Р. Іофэ, Р. Л. Рэлес), Мн., 2000 г.*




## Цялец

Цягавіты, працаголік па натуры.

Дамасед. Не любіць актыўны фізічны адпачынак, аддае перавагу камфорту.

Адпачынак для яго перш за ўсё — утульны, цёплы, эстэтычны, пажадана на зручнай канапе за праглядам любімага фільма і са смачнай ежай.







Анастасія СКАРКО.

16+

«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 5 (1568), 2019 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Міхась КАВАЛЁЎ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ, Мікола ШАБОВІЧ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Алена КЕДА *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*, Анастасія СКАРКО *(мастацкі аддзел)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zviazda.minsk.by.

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.
E-mail: a-vojik@yandex.by;
Тэлефон галоўнага рэдактара, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 244-92-37, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 14.05.2019. Фармат 60х84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,47. Тыраж 598 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.





Алег ГУЦОЛ.